 

# Ніва

ТЫДНЁВІК ГП БГКТ

№ 41 (867) ГОД XVII БЕЛАСТОК 8 КАСТРЫЧНІКА 1972 г. ЦАНА 60 гр.



## У І САКРАТАРА ВК ПАРП З. КУРОЎСКАГА

Як мы ўжо інфармавалі, напярэдадні з'езду БГКТ І сакратар ВК ПАРП у Беластоку Здзіслаў Куроўскі прыняў прадстаўнікоў нашай арганізацыі. У сустрэчы прынялі ўдзел таксама старшыня Прэзідыума ВРН Зыгмунт Спрыха і сакратар ВК ПАРП Уладзіслаў Юшкевіч.

Прадстаўнікі БГКТ расказалі аб працы таварыства, аб яго дасягненнях, клопатах і намерах. Праца нашага таварыства была высока ацэнена І сакратаром.

Затым таварыш Здзіслаў Куроўскі расказаў аб напрамках актывізацыі Беласточчыны. Асноўныя з іх — гэта далейшае развіццё сельскай гаспадаркі, прамысловасці і турызму. Вялікую тут ролю можа адыграць і нашае таварыства, асабліва ў павышэнні ўзроўню сельскагаспадарчай вытворчасці, ва ўпарадкаванні зялёных ужыткаў, ва ўдзельнічанні ў конкурсе «Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная», у галіне развіцця турызму і культуры.

На заканчэнне І сакратар ВК ПАРП пажадаў актывістам БГКТ далейшых поспехаў у грамадскай працы на карысць развіцця нашай арганізацыі і ажыццяўлення супольных задач, якія стаяць перад Беласточчынай.

Звыш двухгадзінная сустрэча прайшла ў прыемнай, сяброўскай атмасферы.

На здымку: у час сустрэчы (злева направа): сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк, І сакратар ВК ПАРП Здзіслаў Куроўскі і старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік.

Фота Цаф — П. Савіцкі



Ужо традыцыйна дэлегатаў бэгэкатоўскіх з'ездаў вітаюць вучні беларускіх ліцэяў.




Характэрнай рысай VII з'езду Беларускага грамадска-культурнага таварыства была дзелавітасць. Бадай ні на адным нашым з'ездзе выступленні дэлегатаў не былі так прадуманы, як на апошнім.

Пытанні, якія з'езд узняў, надзвычай канкрэтныя і, што самае важнае, рэальныя. Аб іх будзе гутарка ў наступных нумарах. Сёння хочам паказаць нашым чытачам урачысты бок з'езду, бо, як і папярэднія з'езды БГКТ, і гэты меў таксама, неадлучную ўжо ў нашых большых мерапрыемствах, такую рысу.

Фота Цаф — П. Савіцкі



*Новае Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства.*



*Заўсёды надзейны хор бельскага аддзела БГКТ.*




*З цікавым паэтычным мантажом выступіла літаратурная эстрада бельскага ліцэя.*

 

# ◆ Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі



## СВЕТ

### ПАГАДНЕННЕ КІТАЙ — ЯПОНІЯ

У часе нядаўняга візіту японскага прэм'ера Танакі ў Пекіне была падпісана супольная дэкларацыя. Дэкларацыя праклямуе заканчэнне ваеннага стану паміж абедзвюма дзяржавамі і поўную нармалізацыю суадносін паміж КНР і Японіяй. Згодна з гэтым дакументам Японія прызнае ўрад Кітайскай Народнай Рэспублікі як адзіны легальны ўрад Кітая, у выніку чаго абедзве дзяржавы вырашылі ўстанавіць дыпламатычныя суадносіны з днём падпісання дэкларацыі. У дэкларацыі Японія сцвярджае, што Тайван з'яўляецца неадлучнай часткай тэрыторыі КНР.

Кітай са свайго боку зрэзыгнаваў з японскіх ваенных кампенсацый. Абодва ўрады згадзіліся ўстанавіць свае будучыя суадносіны, абапіраючыся на пяць прынцыпаў мірнага суіснавання, апавясцілі пачаць перагаворы ў справе заключэння мірнага дагавору і дружбы, а таксама пагадненняў у справах гандлю, суднаходства, авіякамунікацыі і іншых галін супрацоўніцтва.

### КАМІСІЯ КАНТРОЛЮ Ў ХАНОІ

Міжнародная камісія нагляду і кантролю ў В'етнаме афіцыяльна паведаміла сайгонскім уладам, Савецкаму Саюзу і Вялікабрытаніі, якія старшынствавалі на жэнеўскай канферэнцыі ў 1954 годзе, што вырашыла перайсці з Сайгона ў Ханой.

Такое рашэнне прынялі аднагалосна тры дзяржавы-члены камісіі: Індыя, Канада і Польшча, у сувязі з тым, што сайгонскія ўлады адмовіліся прадоўжыць візы прадстаўнікам Індыі.

### 2 МІЛЬЁНЫ ДОЛАРАЎ

Нядаўна штотыднёвік «Ляйф» падаў да ведама, што запрапанавана 2 мільёны долараў за (ненапісаныя яшчэ) ўспаміны Г. Кісінджэра, цяперашняга памочніка прэзідэнта Ніксана па справах бяспекі. Характарызуючы пасаду і ролю Кісінджэра, «Ляйф» сцвердзіў: «Адзін выказаны ім сказ можа выклікаць крах на біржы, а захаванне ў пэўных сітуацыях маўклівасці можа давесці да ашаласці шэфаў урадаў».

### ГОД ДЭМАГРАФІЧНАЙ ПАЛІТЫКІ

Генеральны сакратар ААН Курт Вальдхайм паведаміў, што 1974 год будзе годам сусветнай дэмаграфічнай палітыкі. Цэнтральным пунктам праграмы ААН у гэтай галіне будзе сусветная дэмаграфічная канферэнцыя. К. Вальдхайм сказаў, што кожны год на свеце прыбывае 127 мільёнаў дзяцей, а школы мусяць прыняць 95 мільёнаў вучняў. Тэмпы натуральнага прыросту зараз у два разы большыя, чым у 1940 годзе.

### СВЯТКАВАННІ І АХВЯРЫ

У часе святкаванняў 152-ой гадавіны незалежнасці ў сталіцы Мексікі 24 асобы былі забіты і 496 паранены. Адна з мексіканскіх газет падкрэслівае, што асноўнай прычынай гэтага трагічнага балансу было павялічанае спажыванне алкаголю. У мінулым годзе ў часе нацыянальнага свята загінула 17 чалавек, а 47 было паранена.

### НАЙЧЫСЦЕЙШАЕ ПАВЕТРА...

...сярод еўрапейскіх сталіц мае Масква. З Масквы перанесена 300 прамысловых прадпрыемстваў, якія забруджвалі паветра.

(ак)



## БССР

### У ЭФІРЫ «КРЫНІЦА»

На хвалі 750 метраў, пачаўшы ад 1 кастрычніка г.г., з 10 да 12 гадзін маскоўскага часу па другой праграме Беларускага радыё перадаецца новая штодзённая інфармацыйна-палітычная і музычная праграма, названая «Крыніцай». Яна прапануе сваім слухачам пяцімінутныя зводкі навейшых інфармацый пра Беларусь, кароценькія рэпартажы, інтэрв'ю і каментарыі. Час між інфармацыямі запоўніць музыка ў самым лепшым выкананні. Прадугледжаны канцэрты па заяўках слухачоў. Дык наводзім радыё на Мінск.

### «ПАЎЛІНКА» НА ЭКРАНЕ

Неўміручая купалаўская «Паўлінка» неўзабаве атрымае фільмовае ўвасабленне. Пераносіць яе на кінастужку «Беларусьфільм». Для здымкаў спатрэбіліся многія рэквізіты, якія адлюстроўвалі б быт беларускіх шляхцюкоў і падпанкаў з пачатку нашага стагоддзя, між іншым, драўляныя бочкі, цэбры і вёдры. Выканаць іх узяўся рабочы калектыў Пінскай фабрыкі мастацкіх вырабаў. Нармальна гэтая фабрыка прадукуе розныя сувеніры, якія шырока вядомы ў Савецкім Саюзе і за яго межамі. Былі яны экспанаваны на выстаўках і кірмашах 9-ці краін свету.

### АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВЫ ТЭКСТЫЛЬШЧЫКАЎ

Рабочыя Мінскага камвольнага (воўнаперапрацоўчага) камбіната працягваюць прадукцыйную вахту ў гонар 50-годдзя СССР. На іх рахунку ўжо больш 113 тысяч метраў гатовых тканін, якія яны выпрадукавалі звыш плана. У апошнім тыдні верасня мінскія тэкстыльшчыкі звышпланавую прадукцыю — 2000 метраў тканін — адправілі ў швейныя фірмы Казахстана, бо быў гэта тыдзень, прысвечаны менавіта гэтай саюзнай рэспубліцы.

### ДЗЕ СВІЦЯЗЬ-ВОЗЕРА

Свіцязянскае лясніцтва, якое знаходзіцца ў Гродзенскай вобласці, ахоплівае 8,5 тысяч гектараў лесу і возера Свіцязь, якое ў Беларусі лічаць жамчужынай радзімай прыроды. Нездарма ж столькі паэтаў успявала яго славу ў сваіх творах! Возера гэтае і лес вакол яго прызначаны дзяржаўным заказнікам, дзе дзейнасць чалавека абмяжоўваецца толькі да сціплага догляду. Гэта накладвае на работнікаў лясніцтва асаблівую адказнасць. Яны дагледаюць шматвяковыя дрэвы, сочаць за чысцінёю возера, падкормліваюць звяроў і птушак.

### 20-ГОДДЗЕ МІНСКІХ ТРАЛЕЙБУСАЎ

20 гадоў таму назад на вуліцах Мінска паявілася 9 першых тралейбусаў. Яны разам праязджалі тады па горадзе ўсяго ледзь 6 кіламетраў. Цяпер па 18-ці маршрутах курсіруе 300 машын. Для іх патрэб пракладзена над вуліцамі і плошчамі сталіцы 137 кіламетраў канатнага провада.

Адным з першых вадзіцеляў мінскіх тралейбусаў быў Міхаіл Багамолаў. Ён працуе і цяпер, а за мінулыя 20 год ніводнага разу не даvёў да няшчаснага выпадку.

(вр)

## ПОЛЬШЧА

### VI ПЛЕНУМ ЦК ПАРП

27 верасня адбыўся VI пленум Цэнтральнага Камітэта ПАРП, на якім былі абмеркаваны прадпасылкі рэарганізацыі мясцовых улад на вёсцы і ў малых мястэчках, а таксама вынікаючыя з гэтага задачы для партыі. На пленуме з прамовамі выступілі I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк, старшыня Рады Міністраў П. Ярашэвіч і сакратар ЦК ПАРП Э. Бабюх.

I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк у сваім выступленні заявіў, што рэформа дзяржаўнай адміністрацыі павінна запэўніць умовы для ўсебаковага развіцця вёскі.

### ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО

29 верасня адбылося пасяджэнне Палітбюро ЦК ПАРП, на якім была прынята пастанова аб аб'яўленні 1973 года годам польскай навукі, а таксама праграма яго святкавання. Апрача таго, Палітбюро знаёмілася з ходам асенніх палявых работ у сельскай гаспадарцы і актуальнымі праблемамі замежнай палітыкі ПНР.

### ПЛЕНУМ ГП ТППР

30 верасня адбылося ў Варшаве ўрачыстае пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення Таварыства польска-савецкай дружбы, якое прысвячалася 50-ай гадавіне ўтварэння СССР і святкаванню гэтай знамянальнай гадавіны ў нашай краіне. З прамовай выступіў член Палітбюро, сакратар ЦК ПАРП, старшыня ГП ТППР Я. Шыдляк. Удзельнікі пленума былі шырока паінфармаваны аб польска-савецкім супрацоўніцтве ў шматлікіх галінах нашага жыцця.

### СУСТРЭЧА Э. ГЕРКА

I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк правёў сустрэчу з 29-асабовай групай лектараў па партыйнаму абучэнню.

### ПЛЕНАРНЫЯ ПАСЯДЖЭННІ Ў ВК ПАРП

29 верасня адбыліся пленарныя пасяджэнні ваяводскіх камітэтаў партыі ў Познані і Ольштыне. На пасяджэнні Ваяводскага камітэта ПАРП у Познані была праведзена ацэнка дагэтуляшняй рэалізацыі пастановы VI з'езду партыі адносна задач, звязаных з справаздачна-выбарнай кампаніяй у партыі. Удзельнікі пленума ў Ольштыне прынялі пастанову ў справе развіцця гадоўлі кароў наВарміі і Мазурах да 1985 года.

### ВІЗІТ ПРЭМ'ЕРА МАЛЕЗІІ

Нядаўна наведаў Польшчу прэм'ер Малезіі Т. Г. Абдуль Разак, які правёў сустрэчу з прэм'ерам ПНР П. Ярашэвічам і старшынёю Рады Дзяржавы Г. Яблонскім. Тэмай сустрэчы быў гандлёвы абмен паміж дзвюма дзяржавамі.

### ПЛЕНУМ ГП ЗМС

У Варшаве адбыўся XVI пленум Галоўнага праўлення ЗМС, на якім быў абмеркаваны ўдзел моладзі ў грамадска-эканамічным развіцці нашай краіны, праведзены змены ў саставе сакратарыята ГП ЗМС і прынята пастанова аб тэрміне з'езду.

(яц)



## ВАЯВОДСТВА

### НАРАДА Ў ВК ПАРП

У Ваяводскім камітэце партыі адбылася нарада, прысвечаная новай справаздачна-выбарнай кампаніі, якая пачнецца ў апошнім квартале гэтага года і закончыцца ў першым квартале 1973 года. Згодна са статутам партыі ва ўсіх арганізацыях адбудуцца сходы і справаздачна-выбарныя канферэнцыі. У сувязі з гэтым на нарадзе арганізацыйныя сакратары ПК, у прысутнасці I сакратара ВК партыі З. Куроўскага, абмяркоўвалі заданні партарганізацый, звязаныя з гэтай кампаніяй. Вёў нараду сакратар ВК Ул. Юшкевіч. Сёлетняя справаздачна-выбарная кампанія будзе праходзіць у час правядзення адміністрацыйнай рэформы ў вёсках і малых мястэчках. Перад партыйнымі калектывамі стаіць заданне прыстасавацца да працы ў новых умовах.

### ПАЧАЎСЯ НАВУЧАЛЬНЫ ГОД У СТУДЭНТАЎ

2 кастрычніка пачаўся новы навучальны год у вышэйшых школах краіны і нашага ваяводства. У трох вышэйшых школах Беластока — Медыцынскай акадэміі, Вышэйшай інжынерскай школе і Філіяле Варшаўскага універсітэта — навучацца будзе на стацыянарных, завочных і вячэрніх аддзяленнях 5300 студэнтаў. Паўтары тысячы з іх першы раз сядзе за акадэміцкую лаўку. Усе нашыя школы галоўнай сваёй мэтай лічаць павышэнне якасці і вынікаў навучання, асабліва падкрэсліваюць гэта сёлета, калі аб'яўлены год польскай навукі.

### БАЛГАРСКІЯ ГОСЦІ

На Беласточчыне некалькі дзён прабывала дэлегацыя сельскагаспадарчага аддзела ЦК КП Балгарыі на чале з намеснікам кіраўніка аддзела А. Дойчавым. Госці цікавіліся нашымі дасягненнямі ў галіне сельскай гаспадаркі, лясніцтва і харчовай прамысловасці, наведалі Гайнаўскае прадпрыемства драўнінай прамысловасці, беластоцкі мясакамбінат і іншыя.

### СПРАВЫ ЖЫЛЛЁВАГА БУДАЎНІЦТВА

На днях адбылося пленарнае пасяджэнне Ваяводскай камісіі прафсаюзаў, на якім абмяркоўвалася прафсаюзная дзейнасць у напрамку паляпшэння жыллёвых умоў рабочых. Вёў пасяджэнне старшыня ВКЗЗ Ю. Трусевіч. Апрача членаў пленума ўдзельнічалі ў пасяджэнні прадстаўнікі рад нарадовых, жыллёвых спулдзельняў, будаўніцтва і дырэктары прамысловых прадпрыемстваў. Пленум прыняў пастанову, у якой акрэсліваюцца новыя заданні прафсаюзных арганізацый у перыяд шырэйшага ўключэння прадпрыемстваў у жыллёвае будаўніцтва.

### АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВА ВЫКАНАНА

Чыгуначнае прадпрыемства стальных канструкцый (КЗКС) у Стараседьцах з'яўляецца адным з перадавых прадпрыемстваў Беласточчыны. Рабочыя прадпрыемства выканалі ўжо поўнасцю абавязацельствы, прынятыя імі па заклiку партыі ў рамах акцыі «20 мільярдаў» — далі дадатковую прадукцыю на 6 млн. злотых. Разумеючы патрэбы гаспадаркі ў вырабах, якія дае прадпрыемства, рабочы калектыў прыняў новыя абавязацельствы — даць дадатковай прадукцыі яшчэ на 2,5 млн. злотых.

(яч)




NIEDZIELA 8.X.
8.00 Program dnia. 8.05 TV Kurs Rolniczy. 8.40 „Przypominamy, radzimy". 9.00 Dla młodych widzów: „Teleranek". 10.20 „Oblężenie" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 11.15 Sportowy Magazyn Sprawozdawczy. 13.00 Dziennik. 13.20 „Przemiany". 13.50 Turniej Fabryk: Dębica — Olsztyn. 15.20 Dla dzieci: M. Karwatowa i J. Jokiel — „Herkules niezwyciężony". — widowisko Państw. Teatru Lalek „Pleciuga" w Szczecinie. 16.20 „W starym kinie". 17.40 „Wojsko od rana śpiewa". 18.05 „W oczekiwaniu na porę deszczową" — film dok. („Prawa buszu"). 18.30 Festiwal Muzyki Rosyjskiej i Radzieckiej. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Akcja Effi" — film ang. („Wielki napad"). 20.55 PKF. 21.05 „Ali-Babki show" — program rozrywkowy. 21.05 Magazyn sportowy.

PONIEDZIAŁEK 9.X.
15.20 i 22.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.25 „Echo stadionu". 17.50 „Zanzibar" — film dok. NRD. 18.25 Film. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: A. Fredro — „Śluby panieńskie". 21.20 „Spotkanie z pisarzem" — Krzysztof Teodor Toeplitz. 21.50 Dziennik. 22.10 „Gra Andrzej Grabiec".

WTOREK 10.X.
8.25 „Odwiedziny prezydenta" — film fab. pol. 10.00 Dla szkół: (kl. IV) „Na pomoc przyrodzie". 11.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski — „Pierwszy dzień wolności". 12.45 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — Sofokles — „Antygona". 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Współcześni graficy polscy" — Władysław Skoczylas. 17.10 „Oferty". 17.30 Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Kino Interesujących Filmów: „Ameryka, Ameryka" — film fab. USA. 22.45 Dziennik.

ŚRODA 11.X.
7.10 „Ameryka, Ameryka" — film fab. USA. 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Siła i jej mierzenie". 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „O ruchach". 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „Stanisław Staszic". 12.45 i 13.20 Mechanizacja Rolnictwa. — cz. I i II. 14.00 „Wybieramy zawód". 15.20 i 23.00 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Latający Holender". 17.10 Dla dzieci: J. Loup Temporal — „Lalki w ręku mistrza". 17.40 Magazyn ITP. 17.55 „Sylwetki X Muzy". 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Poligon". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Hans Beimler" — film NRD. 21.25 „Świat i Polska". 22.00 „Taniec i magia" — „Balet". 22.30 Dziennik. Wiadomości sportowe.

CZWARTEK 12.X.
8.35 „Hans Beimler" — film NRD (odcinek ostatni). 9.55 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — „Aleksander Puszkin". 11.55 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — Sofokles „Antygona". 14.00 Matematyka w szkole: „Zbiory" cz. VI. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.45 PKF. 17.55 „Gramy o telewizor" — teleturniej. 18.20 TV Kurier Kielecki. 18.40 „RTV Klub DORO". 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Południk Zero" — film fab. pol. 21.30 „Ziemia rzeszowska" („Drogami współczesności"). 22.10 „Stańmy bracia wraz" — program rozr. 22.45 Dziennik. Wiadomości sportowe.

PIĄTEK 13.X.
8.25 „Południk Zero" — film fab. pol. 9.55 Dla szkół: (kl. I—III lic.) Wychowanie techniczne — „Dokumentacja techniczna". 10.55 Dla szkół: (kl. VII—VIII) Wychowanie techniczne — „Rysunek techniczny." 15.20 i 22.35 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Pora na Telesfora". 17.25 „Nie tylko dla pań". 17.45 „Dla ciebie śpiewam moje miasto" — recital Pawła Liszki (CSRS). 18.10 TV Kurier Mazowiecki. 18.30 „W krainie polarnej nocy" — program pop. naukowy. 19.00 „Turystyka i wypoczynek". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Rekiny z Nicaraguy" — film dok. („Człowiek i morze"). 20.30 „Kraj". 21.10 Scena Monodram: N. Chajtow — „Drzewo bez korzeni". 21.50 „5 milionów" — program rozr. 22.10 Dziennik.

SOBOTA 14.X.
9.50 Film fabularny. 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — „Organizmy jednokomórkowe". 10.25 „Rekiny z Nicaraguy' — film dok. („Człowiek i morze"). 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — „Nizina Turańska". 15.25 Program dnia. 15.30 Program I proponuje. 15.50 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.30 Dziennik. 16.40 Teatr Młodego Widza: K. Berwińska — „Próba". 17.50 „Polski Film Dokumentalny". 18.35 „Godzina Orfeusza" — magazyn muzyczny nr 16. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Czas rozprawy" — film fab. ang. (od lat 16). 22.05 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.30 „Interclub" — program rozr. 23.20 „Kolacja dla nieboszczyków" — film czechosł. („Opowieść z wyższych sfer").




**Piątek, 6 października**

8.05 Film fab. 9.20 Filmy dokument. 16.40 Koncert. 17.20 Film fab. 18.30 Hokej SKA (Leningrad) — CSKA. 19.15 Czas. 19.45 Kamerton. 20.35 Panorama nowin.

**Sobota, 7 października**

9.45 Film fab. 11.15 Szkatułka muzyczna. 12.00 Spotkania muzyczne. 12.30 Zdrowie. 13.00 Hokej. „Spartak" (Moskwa) — „Skrzydła Rad". 15.15 Filmy animowane dla dzieci. 16.00 Nowiny. 16.20 Koncert życzeń. 17.35 Spektakl teatralny. 19.00 Czas. 19.30 c. d. spektaklu. 20.40 Wieczorne melodie.

**Niedziela, 8 października**

7.00 Program dnia. 9.14 Koncert. 10.00 Ekran i czas. 10.55 Filmy animowane dla dzieci. 15.00 Klub filmowy. 16.00 Nowiny. 16.10 Film fab. 18.00 Klub TV „Kłos". 19.00 Czas. 19.30 Koncert z Sali Kolumnowej.




Ад раніцы да позніх гадзін вечара бурліць жыццё на швейным прадпрыемстве ў Міхалове Беластоцкага павету. Вечарам з вакон прадпрыемства б'юць ясныя патокі святла. Тут яшчэ працуюць краўчыхі.

З ходам працы на прадпрыемстве знаёмяць нас загадчыца прадпрыемства Галена Назарка і брыгадзіршы: Ірэна Казлоўская і Валя Шымкоўская. Уваходзім у цэх. Над швейнымі машынамі схіляюцца маладыя і пажылыя жанчыны. Працуе іх тут 50 чалавек, па 50 чалавек на кожнай змене — ранішняй і пасляабедняй. На століках рознаколерныя кавалкі матэрыялу. Жанчыны шыюць з іх вопратку для дзяцей і бялізну для мужчын. Шахацяць і стракочуць швейныя машыны, і ў руках краўчых уміг атрымліваюцца гатовыя фартушкі для школьнікаў, трусікі для мужчын і г.д. Гэтых вырабаў трэба нам многа. Ёсць на іх вялікае запатрабаванне. На дзесяткі тысяч штук. За мільёны злотых. Тут швеі маюць шанцы добрага заробку. Ёсць ахвота да працы.

— І што важна, здараецца мала бракаў, гэта значыць, кепска пашытай вопраткі, — паясняе бракаршчыца Анастасія Крэйза. — Умовы да працы на нашым прадпрыемстве не найлепшыя, зрэшты, бачыце самі, — гаворыць Ірэна Казлоўская. — Але цяпер на многа лепш, чымсьці было гэта 22 гады таму назад, бо столькі існуе наша прадпрыемства. Тады працавалі мы ў прыватных кватэрах і на ўласных швейных машынах.

З далейшай размовы даведаліся мы, што неўзабаве швейнае прадпрыемства пяройдзе ў новы, пабудаваны за 2 мільёны 200 тысяч зл. будынак. На новым месцы краўчыхі атрымаюць святліцу, сталовую, душ і г.д. Новае прадпрыемства атрымае таксама новую агароджу і кветнікі.


*Перадавыя краўчыхі са змены Валі Шымкоўскай.*


*Найлепшыя краўчыхі са змены Ірэны Казлоўскай.*

Вернемся аднак да самога рабочага калектыву. У саставе яго многа маладых дзяўчат з Міхалова і навакольных вёсак. Многія з іх павышаюць сваю адукацыю на спецыяльных падрыхтоўчых курсах на званне кравецкага чаляднікa. Перад маладымі, як бачым, адкрываюцца шырокія перспектывы на лепшую будучыню. У новым будынку швейнага прадпрыемства атрымае працу дадаткова 30 дзяўчат і жанчын. Значыць, ёсць тады шанцы для тых краўчых, якія дагэтуль не заўсёды мелі гарантаваны добры заробак.

Зараз у Міхалове дзейнічае жыллёвы кааператыў. Краўчыхі са швейнага прадпрыемства маюць магчымасці стаць членамі гэтага кааператыва і атрымаць уласную кватэру. Аб тым, каб забяспечыць сваіх рабочых кватэрамі, клапоціцца таксама кіраўніцтва швейнага кааператыва ў Беластоку, якому падлягае міхалоўскае прадпрыемства. Дагэтуль ужо 10 асоб атрымала новыя кватэры.

Усе краўчыхі са швейнага прадпрыемства заўсёды выконваюць, а нават перавыконваюць намечаныя планы. Прадукцыйнасць працы ў іх вялікая. Апошнім часам прынялі яны абавязацельствы шыць у месяц на 2 тысячы штук вопраткі больш, чымсьці прадбачвалася ў плане. З дадатковымі абавязкамі спраўляюцца паспяхова. Варта адзначыць, што ўсе яны працавалі таксама грамадскім чынам пры маляванні свайго цэху.

Да найлепшых краўчых прадпрыемства належаць: у брыгадзе Ірэны Казлоўскай — Станіслава Адамская, Валя Маліноўская, Валя Гарбач, Ірэна Полех і Ніна Кісялевіч, а ў брыгадзе Валі Шынкоўскай — Анастасія Крэйза, Стэфанія Русэль, Антаніна Воўтрык, Яўгенія Магнушэўская, Зіна Філіпчук і Рэгіна Аўкштоль.

*Тэкст і фота Янкі Цялушэцкага*




Арцель «Бэтэска» належыць да ліку пяці самых вялікіх у Беластоцкім ваяводстве. Працуе ў ёй каля шасцісот чалавек. У асноўным спецыялізуецца арцель у вырабах з пластмасы, кааперуе яна з многімі прадпрыемствамі краіны.

У агульнай прадукцыі «Бэтэскі» значны ўдзел дробнай галантэрыі: касметычныя камплекты, модныя дробязі і т.п. Існуе асартымент вырабаў пад назвай: хатняя хімія. Гэта розныя падлогавыя пасты, сродкі ўтрымання гігіены памяшканняў. Ва ўсім гэтым істотная заслуга «Бэтэскі»; сваёй вытворчасцю запоўніла яна надакучлівую прагаліну ў таварным рынку. Дала дробныя, але як жа патрэбныя ў штодзённым жыцці рэчы.

Зусім нядаўна, на вуліцы Воінскай у Беластоку, пабудавана чарговае бэтэскаўскае прадпрыемства. Машыны закуплены ў Заходняй Германіі і Чэхаславакіі. Прыгожая архітэктура будынку. Тут працуюць толькі жанчыны, каля сотні работніц. Большасць з іх мае сярэднюю адукацыю. Да канца года гэтае прадпрыемства дасць прадукцыю вартасцю каля васьмі мільёнаў злотых.

Прадпрыемствы «Бэтэскі» знаходзяцца ў Васількове, Кляшчэлях і Моньках.

Ад 1968 года дзейнасцю арцелі кіруе Станіслаў Кузьма (родам з Крынак на Сакольшчыне). Выдатны арганізатар, ён увесь з нецярплівасці. «Бэтэска» падвойвае прадукцыю, якая знікае ў ненасытным рынку збыту; не відаць дна. У 1975 годзе «Бэтэска» дасць тавараў на суму 110 мільёнаў злотых, у асартыменце каля трохсот вырабаў. Набліжаюцца вялікія дні некалі малюсенькай арцелі. Вырастае яна на патэнтата!

«Бэтэсцы» пад сілу роля актывізатара гаспадарчага жыцця мястэчка. Хаця б у Крынках: вельмі патрэбнае прадпрыемства, якое забяспечыла б работай маладое пакаленне. Ад Крынак да Беластока каля пяцідзесяці кіламетраў; ёсць такія, што кожны дзень даязджаюць на работу аж у Беласток! Крынкі, вялікае мястэчка, маюць значныя лішкі рабочай сілы.

Падобная сітуацыя ў Гарадку, Нарве, Нараўцы, Дуброве, Янаве каля Саколкі. Дзейнасць «Бэтэскі» ў Кляшчэлях або ў Моньках з'яўляецца добрым пачаткам.

*Сакрат Яновіч*

*НА ГАЙНАЎСКАЙ ФАБРЫЦЫ МЭБЛІ*


*Цэх машыннай апрацоўкі.*

*Фота Цаф — Р. Сянько*




# ПЕРЫЯД XIX СТАГОДДЗЯ

## ЯНКА ЛУЧЫНА — ЧАСТКА III

Творчасць Янкі Лучыны прыпала на тыя цяжкія гады, калі царызм праводзіў жорсткую русіфікацыю беларускіх зямель. Пад прадлогам барацьбы з польскай экспансіяй царызм душыў усё не толькі польскае, але і беларускае. Дынамічная польская культура і літаратура, высокая ступень польскай нацыянальнай самасвядомасці з'яўляліся крэпасцю, якую, нягледзячы на найбольш дзікія прыёмы, царызм не мог разбіць.

З Беларуссю затое рускія чыноўнікі спраўляліся вельмі лёгка. Адсутнасць беларускіх школ, беларускіх арганізацый, беларускай мовы ва ўстановах; атоесамліванне беларускасці з захалуснасцю, прымітывізмам, дзівацтвам, прыдуркаватасцю; дзікія кпіны і высмейванне тых, хто гэтай мовай карыстаўся, далі ў канцы станоўчы вынік.

Беларускі селянін, несвядомы захавальнік роднай мовы, не мог быць стойкім барацьбітом за яе эманцыпацыю. Класавая свядомасць беларуса расла хутчэй, чым свядомасць нацыянальная. У такой сітуацыі роля Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча і Янкі Лучыны вымагала выключнай адвагі, ахвярнасці і гераізму. Узнімаючы беларускую мову да ранга мовы літаратурнай, станавіліся яны не раз пасмешышчам у вачах тых, хто свядома гэтую мову затоптваў у гразь або адносіўся да яе з беспрынцыпнай абыякавасцю. Дадатковая цяжкасць была звязана з сялянскім беларускім асяроддзем. Звязанае, ашуканае, акамянелае, яно не было схільным да падтрымкі ідэй, з якіх не вынікалі непасрэдныя карысці і перспектывы. Творчасць на беларускай мове Багушэвіча і Лучыны, нягледзячы на тое, што закранала найбольш істотныя справы сялянскага побыту, не знайшла сярод гэтага сялянства чытачоў. Ды і як жа магла знайсці?

Нізкі ўзровень нацыянальнай свядомасці беларускага селяніна не быў галоўнай прычынай слабога распаўсюджання беларускіх твораў у народзе. Народ не ўмеў чытаць, і патрэбны былі людзі, здольныя данесці да забітага мужыка пісанае слова. Вось з гэтай прычыны і творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча, і творчасць Ф. Багушэвіча, і творчасць Я. Лучыны былі насычаны народніцкімі ідэямі. Пісьменнікі балюча перажывалі сваю аддаленасць ад народа і настойліва шукалі шляхоў да яго. Здаючы сабе справу са слабасці беларускай мовы як сродка агітацыі, як сродка сувязі з масамі, як сродка пашырэння акрэсленых ідэй і культуры, часта побач з беларускай мовай выкарыстоўвалі яны таксама мову польскую і рускую, імкнуліся да больш франтальнага наступлення. Звярталіся да праваслаўных і да католікаў, да сялян і паноў. Апелявалі да інтэлігенцыі. Былі перакананы, што толькі ахвярніцтва, альтруізм, навука змогуць адрадзіць родную старонку. Сярод гэтых высакародных людзей пачэснае месца займае постаць Янкі Лучыны. Высокі спецыяліст, добры інжынер, мог ён, несумненна, правесці спакойнае жыццё без трывог і небяспек, звязаных з творчасцю на беларускай мове. Выбраў трывогу. Пачаў пісаць па-беларуску, па-польску і па-руску. Дыяпазон яго паэзіі вялікі. Галоўную аднак пазіцыю ў ёй займае сялянская крыўда. Зразумела, што цікавяць нас перш за ўсё беларускія вершы Янкі Лучыны, якія склалі яго зборнік «Вязанка». Зборнік гэты, як мы ўжо сказалі, быў выдадзены ў 1903 годзе ў Пецярбурзе. Сучасны беларускі даследчык С. Майхровіч у працы «Нарысы беларускай літаратуры XIX ст.» робіць закід тым літаратуразнаўцам, якія не спасылаюцца на «Вязанку» Лучыны, апублікаваную ў 1891 годзе. Сам Майхровіч спасылаецца на «Гісторыю СССР» пад рэдакцыяй Нечкінай, у якой сказана аб першай публікацыі «Вязанкі» ў 1891 годзе. Зразумела, што было б намнога лепш, калі б даследчык спасылаўся на канкрэтны экземпляр кнігі, а не на абгрунтаваныя сцверджанні гісторыкаў.

Вернемся аднак да творчасці Янкі Лучыны. У паэзіі гэтага аўтара выступае выразнае асуджэнне капіталістычнай сістэмы. Гэты матыў выступае таксама ў некаторых публіцыстычных артыкулах Лучыны. Як вядома, асноўнай з'явай капіталізму было развіццё прамысловасці і чыгунак. Лучына, несумненна у сур'ёзнай ступені прымаў удзел у развіцці чыгунак у Рускай імперыі. Становіцца незразумелым, як Лучына мог пратэставаць супраць таго, што сам развіваў, як мог асуджаць капіталістычную сістэму развіцця прамысловасці.

Няма сумненняў, што паэт разумеў заканамернасць і непазбежнасць прамысловага працэсу. Быў аднак праціўнікам жорсткасці, эксплуатацыі і дзікага разгулу чыноўніцтва, словам, ворагам таго аспекта капіталізацыі, які біў у народныя масы.

